Снегапад у Мінску.

Фота IREX/ProMedia.

## Студэнтам павялічылі стыпендыі

Згодна з пастановай Савета міністраў Беларусі, з 1 красавіка ўсе віды дзяржаўных стыпендый студэнтам павялічаны ў 1,06 раза.

Памер стыпендый залежыць перш за ўсё ад тыпу навучальнай установы, а таксама ад сярэдняга бала паспяховасці студэнта. Так, імянная стыпендыя студэнта ВНУ складзе 65.140 рублёў, навучэнца тэхнікума — 50.480 рублёў, навучэнца ПТВ — 30.610 рублёў.

Вучэбная стыпендыя студэнтаў ВНУ складзе 28.330 рублёў, навучэнцаў тэхнікумаў — 23.780 рублёў, навучэнцаў ПТВ — 15.310 рублёў. Сацыяльная стыпендыя студэнта ВНУ складзе 22.800 рублёў, навучэнца тэхнікума — 18.237 рублёў, навучэнца ПТВ — 8.470 рублёў.

Спецыяльная стыпендыя студэнта ВНУ складзе 44.660 рублёў, навучэнца тэхнікума — 37.220 рублёў, навучэнца ПТВ — 24.190 рублёў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## «Балтыка» прыпыніла экспарт свайго піва ў Беларусь

Рашэнне аб прыпыненні экспарту піва ў Беларусь прынята ў сувязі з увядзеннем беларускім бокам з 1 красавіка новага парадку размяшчэння акцызнай маркі на таварнай накладной. Піва не будзе пастаўляцца ў Беларусь да зацвярджэння новай працэдуры маркіроўкі накладных гэтымі спецыяльнымі акцызамі.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Як звязацца з грамадой?

Сёння ў Мінску пройдзе адкрыты семінар "Этычныя і прафесійныя стандарты ў вобласці Public Relations". Арганізатарам мерапрыемства выступае кафедра тэхналогій камунікацыі факультэта журналістыкі БДУ пры падтрымцы Беларускага Інстытута грамадскіх сувязей.

Асноўная мэта семінару — абмеркаванне важнасці тэхналогій сувязей з грамадскасцю (менавіта так перакладаецца з англійскай мовы тэрмін "public relations") у сучаснай беларускай бізнес-практыцы. Удзельнікі семінара будуць прапаноўваць шляхі вырашэння праблем, якія ўзнікаюць пры ўзаемадзеянні камерцыйных структур з дзяржаўнымі ўстановамі, са сродкамі масавай інфармацыі і ўвогуле з усім грамадствам.

**Аляксей АЛЯКСАНДРАЎ.**

# Куды вядзе Жэрнас?

## або Што хаваецца за ідэалагічнай пацярухай

**Васіль ЯКАВЕНКА**

Дзівосы: дзяржвертыкаль успомніла пра ідэалогію і, адчайна яе шукаючы, спрабуе намацаць ды прыўзняць у грамадстве мроіва абяцанак, ілюзій. А мне розум пакуль не здрадзіў, і я выразна бачу: няма ў нас за што зачапіцца адмысловай ідэалогіі, няма на што абаперціся, а без гэтага што ні кажы, а ўсё — трын трава, зялёны хмель без апірышча.

Ідэалогія, як сцвярджаюць крыніцы, ёсць сістэма ідэй, уяўленняў, поглядаў, якія характарызуюць грамадства. Яна, ідэалогія, зазвычай служыць асноўным мэтам, якія ставяцца перад народам. Усё гэта гранічна зразумела, і ці не таму ў дакладзе Аляксандра Лукашэнкі, прысвечаным ідэалагічнай рабоце, вельмі трапна зазначана: "Ідэалогія для дзяржавы — тое ж самае, што імунная сістэма для жывога арганізма".

Добра, з розумам сказана. Адно жалю варта: імунная сістэма (чытай — ідэалогія) у нашай краіне не склалася, з чым ніхто спрачацца не будзе. Скажу больш: у нас і грамадства як адзіны арганізм не склалася, нават канцэпцыя грамадскай супольнасці не распрацавана. Яе няма. Яе, шчыра кажучы, і не будзе, пакуль вучоныя, палітыкі, дзяржаўныя і грамадзянскія дзеячы агульнымі высілкамі аднойчы не вызначаць, хоць бы ўмоўна, скажам, пункцірам сцяжыну лёсу краіны.

Адсутнічае праграма нацыянальнага развіцця. І каму яна патрэбная, калі кіраўнік дзяржавы неяк зазначыў, што наша нацыянальная палітыка — саюз з Расіяй. Тут, мякка кажучы, дапушчана нацяжка, бо саюз, незалежна з якой бы краінай ён ні заключаўся, — прэрагатыва не "нацыянальнай", а знешняй палітыкі.

Нестае ў нас і самавітай палітыкі, увасабляючай духоўную хрыбціну грамадства, і тут, магчыма, асноўная прычына таго, што не свеціць нам ні грамадская супольнасць з яе дэмакратычным ладам жыцця, ні супольная імунная сістэма. Яшчэ раз варта падкрэсліць: у адчужаным ад самога сябе, рыхлым і не шануючым свае нацыянальныя сілы, інтэлект і каштоўнасці грамадстве імунітэту няма як трываць, ён распадаецца ды ў сваю чаргу спрыяе распаду грамадскага арганізма.

Але ж тады на чым усталёўваецца ідэалогія, якую прапануе нам Лукашэнка? Аказваецца, на тым невялікім, што чыноўны люд наскубе з сусветна вядомых ідэалогій: касмыль ад камунізму, касмыль ад кансерватызму, касмыль ад лібералізму... Усё гэта нейкім чынам спрадзецца ў агульную ідэалагічную нітку, ляжа ў харызматычнае палатно, напэўна, з выявай валошкі, бо, як сказана ў дакладзе, "беларускае грамадства павінна развівацца, але рабіць гэта трэба перш за ўсё ў рамках уласнай культурнай традыцыі".

Наконт жа тых "рамак" вельмі слушна зазначана. Праўда, што ў іх за пацяруха акажацца — невядома. Калі ісці ад даклада, то як найважнейшае дэкларуецца "здольнасць працаваць не толькі дзеля нажывы, але і на карысць грамадства, калектыву, іншых людзей". І — добра. Зноў добра. Але ж да падобных прыярытэтаў заклікае любая ідэалогія — не абавязкова беларускага прыгатавання. А камуністычная — і пагатоў: бясплатная праца — о, як гэта знаёма і як гэта ўжо цяпер рэжа ў нырках! І тым не менш актуальна.

Пры ўсіх намаганнях аўтараў гэтага, так бы мовіць, дзяржаўнага праекта характар нацыянальнай ідэалогіі не вызначаны. У такім выпадку ці не давядзецца нашым чыноўнікам, і без таго збітым з панталыку, разгубленым, самім паскубваць-паскубваць і гатаваць для сваіх грамадзян ідэалагічную мешаніну?

Значыць, нацыянальнай ідэалогіі практычна няма. На жаль, вядома. Пры гэтым, як ні дзіўна, лічыцца, што ў нас аднойчы створана суверэнная дзяржава і ў дзяржаве мусіць функцыянаваць нацыя.

Бадай, з гэтай нагоды наш дабраслаўны дакладчык і спрабуе нібыта павярнуць дэнацыяналізаваны, духоўна абкрадзены люд да сваіх каранёў, літаральна: "... ідэалогію дзяржавы трэба будаваць на сваім, на родным фундаменце". І яшчэ: "Кожная нацыя расце і развіваецца на сваёй роднай ідэалагічнай глебе. Гэтак жа будзем рабіць і дзейнічаць мы".

Чытаючы падобныя дэфініцыі, я не магу адмовіць А.Лукашэнку ў мудрасці. Дарэчы, я пачаў паважаць яго розум, імпэт, яшчэ калі даведаўся пра ягоны праект рэформы сельскай гаспадаркі, прапанаваны ім незадоўга да распаду Саюза. Там ён быў уніклівы, абачлівы, клапатлівы. Згодна з ягоным праектам, прадугледжвалася вяртанне селяніна да зямлі-матухны. Але ж толькі прыйшоў чалавек да ўлады — і забыўся на тое, чаго ад яго зямля і сяляне чакалі!

Наш правадыр супярэчлівы і, выдаючы трактаты аб ідэалогіі, якая павінна быць у "дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржаве", тут жа патрабуе безразважнай і, дадам, халуйскай падтрымкі сваёй ўлады: "Недапушчальна, калі чыноўнікі або выкладчыкі навучальных устаноў не падзяляюць дзяржаўнай ідэалогіі, а іншы раз адкрыта выступаюць праціўнікамі ўлады і таго курсу, які яны нібыта і самі праводзяць або павінны праводзіць, будучы ўманціраванымі (акурат як гаечкі і вінцікі. — **В.Я.**) у гэту сістэму ўлады". Гэта, даруйце, ужо варта пяра самых вялікіх дыктатараў і тыранаў, якім "ідэалогія" патрэбна, няйначай як глушыцель одуму народа і, безумоўна, як падпорка.

Пасля гэтага чаго вартыя рэмінісцэнцыі наконт будаўніцтва дзяржавы на сваім родным грунце? І што такое родны грунт?.. Да падмурка ж суверэннай дзяржавы, як ні круці, адносіцца і мова. А што з ёй таталітарная дзяржава робіць? Вынішчае бязглузднa. Хіба ж гэта нікому не кідаецца ў вочы? Толькі ж, пане дабрадзею, такія рэчы, як мова і зямля, акурат і вылучаюцца цывілізаваным людам у складальнікі нацыі. Паводле Л. Гумілёва: "Нацыя — гэта зямля і мова". То на якім жа тады нацыянальным падмурку нам узводзіць дзяржаву і шыхаваць ідэалогію, калі грамадства, у якім мы жывем, наўмысна адлучаецца ад роднай мовы?

Жалю варта і тое, што ў словах і ўчынках кіраўніка дзяржавы няма паслядоўнасці. І чаму дзівіцца, калі ў яго меркаваннях раз за разам утвараюцца так званыя нажніцы.

Тым часам ідэйны змест даклада, як і ўся задума з новым грамадскім інстытутам ідэолагаў, выклікаюць сумненні і насцярожанасць. Цяпер "ідэолагі" пішчом будуць лезці ў душу сваіх грамадзян, каб (перад рэферэндумам, які прызначаецца), паказаць заўжды бліскучыя дасягненні кіраўніка ва ўсіх сферах жыцця і даказаць перавагі зліцця Беларусі з Расіяй у адзіны дзяржаўны арганізм, дзе Беларусь, чуеце, наша Айчына і не растворыцца, і не пераварыцца, і, канешне ж, не ператворыцца ў нішто; яна, акурат як той біблейскі Іёна, патрапіўшы ў чэрава кіта, захавае сваю недатыкальнасць, нацыянальную адметнасць — свой годны твар... Крый Божа чуць і бачыць падобных аракулаў, кожнае аблуднае слова якіх будзе шчодра аплачвацца з кішэні працоўнага люду.

Уяўленне ж маё цяпер трывожыць адна акалічнасць, а дакладней, адзін яскравы вобраз у нашай упашыстай літаратуры.

У гістарычным рамане Л.Дайнекі "Жалезныя жалуды" апісваецца фантастычны, бадай, выпадак з грозным лясным вепрам.

"Надзвычайнай велічыні і прыгажосці дзік", прыручаны паляўнічым людам "волат-валаціна" па імені Жэрнас збірае па нетрах лясных сваё племя і вядзе яго праз шырока адчынены ўваход у сцены пасткі, паабапал якой у прыбудовах чакаюць загону паляўнічыя. Жэрнас вядзе сваю братву да свяшчэнных дубоў, дзе на зямлі шмат смачнай ежы — жалудоў. Ды толькі ж туды прапускаюць аднаго Жэрнаса — князя дзікоў, а перад астатнімі апускаюцца цяжкія завалы. І пачынаецца дзікае паляванне!

Ад'ядаючыся пад тымі дубамі і жыруючы, Жэрнас (вечны Жэрнас, так падаецца ў творы Дайнэкі) лічыць за гонар сябраваць з паляўнічымі, ён раз за разам прыводзіць і падстаўляе пад стрэлы і дзіды даверлівых сваіх супляменнікаў.

Я, зрэшты, далёкі ад думкі, каб неяк адвольна, у натуры параўноўваць кіраўніка дзяржавы з Жэрнасам, князем дзікоў. Адно застаецца пытанне: ці не прагне і наш уладар таксама патрапіць пад "свяшчэнныя дубы"? І ці не завядзе ён нас у пастку? Балазе "адстрэл" буйных прадпрыемстваў ды, уласна, нашых валютных абшараў пачаўся.

# Интеллигент на нарах

*После прочтения статьи "На нарах..." Людмилы Грязновой*

Понимание интеллигенцией народа, единение с народом эффективнее всего происходит не в читальных залах, не на митингах и демонстрациях, а в экстремальных ситуациях, когда приходится вместе выживать.

Территория нашей страны с каждым годом все успешнее превращается в полигон для таких ситуаций. Поэтому, если ничего ни менять, то в недалекой перспективе единение интеллигенции с народом произойдет эволюционным путем. Но сегодня существует и ускоренный вариант — тюремная камера.

Такую услугу режим любезно предоставляет белорусской интеллигенции, не желающей ждать единения с народом по законам эволюции, т.е. взаимного обнищания, упадка и деградации. Таких "нетерпеливых" отлавливают и, согласно Конституции Республики Беларусь с изменениями и дополнениями, усаживают на нары. А так как Беларусь занимает 5-е место в мире по количеству осужденных на душу населения, то отдельно содержать политических (как это было в царской России) режиму затруднительно. Тут-то и происходит единение интеллигенции с народом.

Итак, интеллигент на нарах, рядом с ним народ.

Казалось бы, для режима такая ситуация чревата. Ведь из истории КПСС мы знаем, что интеллигент начнет тут же просвещать народ, т.е. настраивать его против режима. Да не тут-то было! Не тот нынче народ пошел — не хочет он просвещаться и на воле, а в камере тем более.

А вот для интеллигента настает момент истины. Вынужденный **слушать** на протяжении 15 и более суток людей из народа, он наконец-то начинает понимать проблемы простого человека.

В этой связи присуждение сроков по политическим мотивам представителям белорусской интеллигенции можно рассматривать как селекционную работу, проводимую режимом по выдвижению и воспитанию лидеров новой Беларуси.

Чтобы вести народ к счастью, нужно познать всю глубину его несчастья, а тюрьма для такого познания — идеальное место. Политик, прошедший через тюремную камеру за свои политические убеждения, заслуживает наибольшего доверия и уважения. Для меня, например, таким человеком является Михаил Николаевич Чигирь.

А в заключение выскажу парадоксальную (только на первый взгляд) мысль: **на Беларуси нужно строить всем миром не библиотеку, а хорошую тюрьму (а при ней — библиотеку)**. Выгода от этого была бы всем: и народу, и интеллигенции, и, надеюсь, некоторым из тех, кто нынче во власти, хотя они и не интеллигенты.

**Микола ШАФАРЕНКО.**

РЕЗОНАНС

## Не нужно наводить тень на плетень

***20 марта в "Народной воле" опубликована мини-рецензия "Память по-витебски" (автор И. Кузнецов). Считаю, что утверждения автора не соответствуют действительности и говорят о его некомпетентности. Более того, складывается впечатление, что И. Кузнецов вообще не держал в руках книгу "Память. Витебск".***

Действительно, в конце 2002-го — начале 2003 г. в издательстве "Беларуская энцыклапедыя" вышло в свет двухтомное издание историко-документальной хроники городов и районов Беларуси "Память. Витебск". Работа над книгой велась почти четырнадцать лет. За этот период изменились три состава редакционной коллегии. Главной целью работы которых было — правдиво и всесторонне отобразить историю нашего города: от первого упоминания о нем и до наших дней. Следует заметить, что Управление информации облисполкома никогда не выступало куратором редколлегии, поскольку к изданию городской книги "Память" не имеет никакого отношения.

В написании материалов для историко-документальной хроники привлекалось около 100 авторов, в том числе и из так называемых независимых СМИ, включая и "Витебский курьер".

К слову, членом городской комиссии по написанию историко-документальной хроники является Михаил Фадеевич Кривенок, член областной Рады Таварыства беларускай мовы. Что же касается персоналий, о которых рассказывается в книге, то недавно умершему поэту, зам. председателя областной Рады ТБМ Анатолию Конапелько (а не Конопелько, как утверждает автор) лично я, хорошо его знавший, посвятил больше строк, чем кому-либо. Более того, в книге помещено и одно из его стихотворений, которое также мною было прочитано во время презентации двухтомного издания.

Не прав И.Кузнецов утверждая, что "читатель не найдет в двухтомнике и намека на незаконно репрессированных в сталинские времена". В первом томе (см. стр. 286—390) под рубрикой "Вернутыя імёны" опубликовано около трех тысяч фамилий жертв сталинских репрессий, вступительную статью к которым написал тот же М.Ф.Кривенок. В этом же разделе опубликованы два моих очерка, рассказывающих о людях того трагического времени, три редких документа из областного архива, подтверждающих безосновательность политического террора власти к своему народу.

В заключение хочется уточнить, что "Народная воля" с мини-рецензией "Память по-витебски" вышла 20 марта, а презентация книги состоялась 19-го, так что и здесь И.Кузнецов не точен. Презентация прошла успешно, при переполненном зале, с участием широкой общественности города и имела положительную прессу, в том числе и в независимой газете "Витебский курьер".

**Артур МАТЕЮН,**
**зам. председателя городской комиссии по написанию хронико-документальной книги "Память. Витебск", ее составитель.**

# Приют

***Четыре года назад в Беларуси был открыт первый детский приют для так называемых социальных сирот. Сейчас в стране уже 75 таких учреждений. Однако всех ребят из неблагополучных семей они вместить не могут.***

На лицах детишек, молча смотревших из окна приземистого здания, застыло напряженное ожидание. Но едва мы переступили порог Дзержинского детского приюта, девчушка посмелее тихо спросила: "Вы к кому?". Этим вопросом здесь встречают всех посетителей, и каждый ребенок втайне надеется услышать: "Конечно же, к тебе, малыш!".

— У нас сегодня счастливое событие произошло, — улыбаясь, сообщила воспитательница Вероника Леонидовна Ефремова. — Забрали пятилетнюю девочку, у которой папа умер, а маму лишили родительских прав. Приехала женщина, которая решила ее удочерить, и девочка сразу к ней: "Мама!". Надо было видеть, с какой завистью смотрели на нее остальные ребята! С женщиной этой приехала соседка. Она тоже хочет взять ребенка. А еще в Дзержинске открывается семейный дом, туда, наверное, заберут двоих братишек — Сережу и Максима.

Дзержинскому приюту, разместившемуся в здании бывшего детского садика деревни Большие Новоселки, исполнилось два года. За это время, по словам воспитателей, через него прошли почти семьдесят детей, среди которых только один ребенок оказался круглым сиротой. Остальные — сироты социальные, чьи родители либо лишены родительских прав, либо — на грани этого.

Задача приютов, по задумке создателей, — приютить детишек на время, пока будет решаться их судьба: если родители одумаются, возьмутся за ум и бросят пить — ребята возвратятся домой. Если же нет — их устроят в приемные семьи или определят в интернат.

Инициировало создание этих детских учреждений, а также разработало и утвердило Положение о них Министерство образования Беларуси. По словам сотрудников министерства, они таким образом отреагировали на тревожную информацию, давно уже поступающую из школ: по примерным подсчетам, ежегодно пять с лишним тысяч детей живут в невыносимых условиях, бродяжничают и пропускают занятия. Пять тысяч! Это — население целого города, если только возможно представить себе город, сплошь заселенный испуганными, заброшенными и голодными ребятишками.

Чиновники из Министерства образования сообщили, что за последние два года половина родителей приютских воспитанников исправилась, их чада вернулись в семьи, и число несчастных детей в стране уменьшилось на несколько сотен. Наверное, они оперируют средними цифрами, куда показатели Дзержинского приюта не вписываются. Из Больших Новоселок домой за два года возвратились лишь двое детишек, а на каждое место в учреждении претендуют по меньшей мере пятеро.

— Когда мы начинали работать, первое впечатление от детей было шоковое, — призналась директор приюта Людмила Сергеевна Мирон. — Такой агрессии мы не ожидали. Они именно нас обвиняли в том, что мы лишили их родителей. Мне приходилось успокаивать и детей, и педагогов. У всех ребят была нарушена психика, многие забыли, как чистить зубы, не знали, что такое постель, тапочки. Все — завшивленные, с энурезом и разными запущенными болезнями.

— Мы спрашивали у малышей: "Что вы больше всего любите?" А они: "Хлеб! Мы очень любим хлеб!" — с горечью добавила Вероника Леонидовна. — У нас в приюте тринадцать человек, а очередь из ребят, которых нужно сюда определить, — огромная! И почему у государства не предусмотрено наказания для родителей-пьяниц? Ведь большинство из них даже не приезжают навестить родных детей, а если и приезжают, то в таком состоянии, что и говорить не хочется! Получается, что им выгодно сдавать ребятишек в приют: у них руки развязаны, они знают, что дети здесь сыты, обуты, одеты, в школу регулярно ходят.

Воспитательница Надежда Петровна Охрименко заметила:

— Наверное, сейчас такой период в жизни общества, что многие люди деградируют и не ведают, что творят. Ничего подобного раньше не было: жили большие семьи, как-то растили детей, и хватало сил у родителей поставить их на ноги. А сейчас даже одного ребенка не могут прокормить и одеть.

Вероника Леонидовна отлучилась на мгновение, вернувшись, шепнула:

— Посмотрите, что ребята на свои тумбочки в спальне ставят! — и показала несколько семейных фотографий, где рядом с серьезным сильным папой стоит красивая смеющаяся мама, нежно обнимая счастливую дочку или сына. Нормальную семью никакой, самый лучший приют или интернат не заменит.

Интернаты в стране уже давно переполнены. И это очень тревожный симптом. Мало того, что соотношение рождаемости и смертности свидетельствует о вырождении нации, так мы даже поколение, которому удалось появиться на свет, воспитываем в казенных заведениях. Поэтому педагоги, чиновники из отделов народного образования, воспитатели приютов изо всех сил стараются определить детишек в семьи или хотя бы найти их родственников. Вот одна из историй, приключившихся в Дзержинском приюте.

Какой-то преступно безответственный папа тайком от жены вывез с Украины дочку, а сам вскоре сгинул, судя по слухам, в закрытом городе Тюмень-15. Работники приюта обратились в милицию, которая, конечно же, занималась более важными, с ее точки зрения, проблемами. Тогда за дело взялись скромные чиновники из отдела народного образования и вместе с воспитателями отыскали-таки украинскую маму, которая сразу же приехала за дочкой.

В Дзержинском приюте мы появились без предупреждения и сразу же были покорены необычайно теплой, сердечной атмосферой, царящей в нем. Люди там подобрались удивительные — искренне любящие детей и сострадающие им. Это ощущалось даже в мелочах: чтобы не уродовать детей, им не стали брить головы, а сделали короткие, прямо-таки модельные стрижки. На стенах пестрели в рамочках уважительно развешенные детские рисунки и разные искусные поделки. Ребята с ходу стали хвастать талантами воспитателей, которые и шьют, и рисуют, и даже пишут стихи. А взрослые с законной гордостью рассказали про успехи подопечных, тоже достигших немалых высот в творчестве: на зиму детишки связали себе варежки и носки, а из непригодных вещей "гуманитарной помощи" смастерили прелестные диванные подушки. Краски, бумагу, иголки и нитки персонал, разумеется, приносит из дома.

Сложнее с учебой: ребята месяцами пропускали занятия, и наверстывать упущенное им не хочется. Но эту проблему взял на себя педколлектив Новоселковской средней школы во главе со своим замечательным директором Вячеславом Владимировичем Ковалевским. С детьми занимаются дополнительно, их приглашают на праздничные вечера и в спортивные секции. В общем, чувствуют они себя в школе достаточно комфортно.

Приюту помогают РОНО, церковь и Высший Хозяйственный суд Беларуси. Но этого явно недостаточно: нужны новые кровати, не лишними оказались бы книги, спортинвентарь, пылесос и швейная машинка. А самое главное — необходима пристройка к зданию, потому что нет места в нем ни для приемного отделения, ни для спортивного зала, ни для карантина. Состоятельные и отзывчивые люди, которые захотят помочь детям, могут узнать адрес приюта в Дзержинском отделе народного образования. Аналогичные учреждения в других районах тоже, наверное, в чем-то нуждаются, так что щедрость и великодушие одной географической точкой можно не ограничивать.

Число приютов растет, но очевидно, что армия заброшенных ребятишек не иссякнет до тех пор, пока не будут искоренены причины этого страшного явления, которое становится уже национальным бедствием. Одну из них назвала педагог из Дзержинского приюта Елена Григорьевна Яцковская:

— Главная причина — низкий уровень жизни. В нашем колхозе "Чырвоная зорка" в начале марта не всем еще зарплату выплатили за ноябрь, а зарплата эта — всего 17 тысяч рублей. Неудивительно, что у нас полдеревни спилось: пьют ведь от безысходности и отчаяния, чтобы отвлечься от горькой действительности, которую исправить не могут.

Сегодня приемной матери начисляется трудовой стаж и минимум 210 тысяч рублей на ребенка в месяц.

— Сумма эта не так уж и велика, если учесть ту колоссальную работу, которую нужно проделать, — справедливо заметила Людмила Сергеевна Мирон. — Ведь мать — это в одном лице и психолог, и педагог, и мама, не говоря уже о ее обязанностях по дому. Но, с другой стороны, по сравнению с мизерными заработками в колхозе, это неплохие деньги, к тому же выплачиваются регулярно. Наверное, не случайно, что детишек усыновлять сейчас стали более охотно.

Конечно, приемным родителям платить надо, но разве не жутковато, когда единственной возможностью заработать становится воспитание чужих детей? Безусловно, растить ребенка — невероятно трудно, но разве не относится это и к родной, биологической матери? А ведь многим женщинам, чтобы заработать эти 210 тысяч, нужно "отпахать" на производстве от звонка до звонка в течение месяца, не отказываясь зачастую и от приработка. Главная их забота — прокормить своих детей, а "быть мамой" — роскошь непозволительная, на это уже не хватает ни времени, ни сил. Вот такой получается парадокс: приемной матерью в нашем обществе быть и престижней, и выгоднее, чем родной!

Когда мы покидали Дзержинский приют, воспитатели сообщили, что на следующей неделе родителей четверых детишек скорее всего лишат родительских прав. И гадали, посчастливится ли найти для очередных социальных сирот приемные семьи или придется всетаки определять их в интернат...

**Анна АРТЮШКЕВИЧ.**

РЭГІЁН

## Касцёльны склеп поўны загадак

Сапраўды гістарычнае адкрыццё зрабілі днямі прыхаджане касцёла Іаана Хрысціцеля ў вёсцы Камаі Пастаўскага раёна. Пры ачыстцы ад пяску і смецця памяшканняў у склепе ксёндз Яцак і яго памочнікі знайшлі да сарака пахаванняў знакамітых асоб XVII—XVIII стагоддзяў.

Яны знаходзіліся ў спецыяльных нішах пад зямлёй, а на таблічках можна было прачытаць прозвішчы памерлых з розных куткоў Ашмянскага павета Вялікага княства Літоўскага.

Дагэтуль мясцовы касцёл быў добра вядомы на ўсю краіну тым, што побач з храмам добра захаваўся чатырохгранны крыж з гранітнага валуна вышынёй 2,5 метра — сведка фарміравання раннебеларускай народнасці.

## «Малочныя камуны» на вёсцы

Многія вяскоўцы адмаўляюцца здаваць малако дзяржаве, бо сталі трымаць адну рагулю на некалькі сем'яў. Такія "малочныя камуны" з 2—3 калектыўных гаспадароў ужо з'явіліся ў вёсках Верацеі, Рамжына і шэрагу вуліц цэнтра сельсавета.

У бліжэйшы час недахоп сыравіны для большасці малочных заводаў вобласці ўзрасце, бо падае вытворчасць на калгасных фермах і імкліва старэюць вяскоўцы, не маючы сіл трымаць жыўнасць.

## Шматпакутны даўгунец

На працягу пяці апошніх гадоў ніводнага рубля прыбытку не змог зарабіць калектыў Плiскага льнозавода, што ў Глыбоцкім раёне. Мінулагодні сезон перапрацоўкі трасты прадпрыемства завяршыла ў сярэдзіне красавіка, працуючы толькі ў адну змену чатыры дні на тыдзень. Сёлета становішча яшчэ горшае, бо сыравіны закупілі на 900 тон менш, хоць і самі вырошчвалі даўгунец на 150 гектарах.

Цікава, што роўна 20 гадоў таму цяперашні дырэктар ільнозавода М.Януковіч узначальваў мясцовы калгас імя Дзімітрова, які за здадзеную трасту атрымаў прыбытку 540 тысяч рублёў — на той момант за іх можна было набыць больш за 100 трактароў. Для параўнання: у мінулым годзе ўсім раёнам закуплена толькі 8 трактароў, у асноўным у растэрміноўку па лізінгу.

**Уладзімір ШЫК.**

## У Гродзенскай вобласці зарэгістравана Асацыяцыя фермераў

7 красавіка ў Гродзенскай вобласці атрымала пасведчанне аб рэгістрацыі першая ў рэгіёне Асацыяцыя фермераў — буйнатаварных вытворцаў. Пакуль яна аб'ядноўвае 11 гаспадарак Гродзенскага, Бераставіцкага, Шчучынскага, Воранаўскага і Свіслацкага раёнаў. Усяго ж на Гродзеншчыне працуюць 304 фермеры.

"Асацыяцыя створана для абароны правоў і інтарэсаў фермераў Гродзеншчыны, — паведаміў дырэктар асацыяцыі Уладзімір Ушкевіч. — Калі ў нас будуць рэальныя вынікі, я ўпэўнены, у нашу арганізацыю ўвойдуць і іншыя фермеры".

Паводле слоў Уладзіміра Ушкевіча, новая структура створана для рэалізацыі канкрэтных запытаў гродзенскіх фермераў. Напрыклад, сярод першачарговых задач асацыяцыі — пошук магчымасцей набыцця сельскагаспадарчай тэхнікі, якая была ва ўжыванні, аналіз рынкаў збыту прадукцыі фермерскіх гаспадарак. Уступны ўзнос для кожнага члена складае 50 тысяч рублёў.

**Ірына ЧАРНЯЎКА.**

